Oplate pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| | | |
|---|---|---|
| **Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** **Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).** Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пятыту ў 1 шпальту. |

№. 24 — Вільня, Серада, 13-га кастрычніка 1926 г. — Год I.

## Абшарніцкае „экспозэ“.

У Вільні маем цяпер два ўрадавыя органы: побач з газэтай „Kurjer Wileński“, якая зьяўляецца органам урадавае „лявіцы“, — „Słowo“ выяўляе думкі і пагляды кансэрватыўна-абшарніцкае „правіцы“, да якое належаць—паводле заявы п. Пілсудскага—міністры Мэйштовіч, Незабітоўскі, Ромоцкі і... „сам“ Пілсудскі.

Ведама, што перавагу ў радзе міністраў меціме заўсёды тая група, да якой будзе належаць галава ўраду. А раз сяньня марш. Пілсудскі залічае сябе да кансэрватыстаў, дык можна наперад прадбачыць, што *ўрад павядзе сваю палітыку на лініі, намечанай абшарнікамі з п. Мэйштовічам на чале.*

З гэтае прычыны мы лічым сваім абавязкам пазнаёміць беларускія масы з тэй праграмай, з якой абшарнікі ўвайшлі ў склад ураду п. Пілсудскага і *якую будуць праводзіць у жыцьцё.* Праграму гэту мы знаходзім у № 234 „Słowa“ з 7 кастрычніка. Абыймае яна перадусім — нацыянальнае пытаньне і *справу адносінаў да беларусаў.*

Не дарма ў часе „Сярэдняе Літвы“ п. Мэйштовіч так нягодна — бяз суда і сьледзтва—выкінуў за межы краю 33-ох найбудатнейшых беларускіх і літоўскіх *культурных* працаўнікоў: паводле „Słowa“, культурны расцьвет беларускага народу—гэта-ж *найвялікшая небясьпека* для Польскае дзяржавы!

Абшарніцкая праграма і прадбачыць *далейшую экспансію польшчыны ў Заходняй Беларусі — шляхам пашырэньня тутака польскіх народных школаў.* Беларускай школе аб'вяшчаецца *непрымірымая барацьба.* Навет „10“ народных школ з навукай у беларускай мове—пры істнаваньні бальшавіцкае Беларусі—можа быць для дзяржавы—мінусам!“

Абшарніцка-пілсудскі ўрад *ні на якія ўступкі* беларусам у школьных справах *ня пойдзе!* Запаведзь гэтага зрабіў яшчэ б. прэм'ер Бартэль—асабіста нашым дэлегатам, езьдзіўшым у Варшаву ад імя Т-ва Беларускае Школы. І—што йшчэ цікаўней! — „Słowo“ рашуча сьцьвярджае, што ніякая ўгода, ніякое лізаньне... пятаў „паном палажэньня“ ня здолее тут нічога зьмяніць: „*партыйныя беларусы ня маюць нічога да здабыцьця на шляху ўгоды з Польшчай, — маюць усё да выйграньня на груньце апазыцыі*“.

Мы шчыра ўдзячны паном — абшарнікам за гэтае *прызнаньне правільнасьці нашае дасюляшняе палітыкі*: яно падыме настроі навет у тых, хто—праз слабасьць духа — гатоў быў-бы йзноў пробаваць найсьці па шляху „палітыкі“ Аляксюкоў, Павлюкевічаў і ўсяе гэнае „бутэрброднае“ кумпаніі, якая так скандальна правалілася. Толькі *творчай працай,* толькі *нясупынным змаганьнем* мы запраўды здолеем абараніць свой народ ад вынішчэньня яго пад „апякунскім крыльлем“ Польскае дзяржавы!

Так. Але гэта йшчэ ня ўсё, што паны абшарнікі ў сваім „экспозэ“ маюць сказаць беларусам. „Słowo“, абясьціўшы беларусам вайну да поўнага іх вынішчэньня, адначасна кідае гэткі „фэдэралістычны“ лёзунг:

„*Фэдэрацыя з Менскам, але не з Наваградкам!*“

Не затрымліваючыся над пытаньнем: чаму „Наваградкам“, а ня—„Вільняй“?—мы мусім сказаць п. Мэйштовічу і яго калегам: няўжо-ж вы, панове, запраўды настолькі наіўныя, што паважна можаце думаць аб зблізжэньні з Менскам—пры сучасных вашых адносінах да нас у Заходняй Беларусі?!...

Ну, ды што *нам* тутака гаварыць: хай лепш скажа ім сваё слова аб гэтым—*Менск*!

## У Польшчы.

### Дэлегаты францускага грамадзянства ў Польшчы.

У Варшаву прыехалі прадстаўнікі радыкальнага францускага грамадзянства—паэт Дюгамэль і рэдактар Шэмэвье, пасланыя францускімі арганізацыямі, якія паставілі сабе мэтай барацьбу за амністыю для палітычных вязьняў на ўсім сьвеце, а перадусім—у Польшчы. Дэлегаты гэтыя былі спатканы ў Варшаве пасламі Балiным, Сохацкім і іншымі, якія, пэўна-ж, дадуць ім вычэрпываючыя інфармацыі.

### Далейшая мілітарызацыя польскага ўраду.

Маем ужо ў Польшчы ваеннага генарала-маршалка на становішчы прэм'ера і ваеннага міністра. Маем падпарадкаванага прэм'еру ня толькі калегіяльна, але і дысцыплінарна—генарала-міністра ўнутраных спраў. Цяпер, як пішуць газэты, мае быць назначаны віцэ-міністрам справядлівасьці — палкоўнік чыннай службы п. Мэцнароўскі, які адначасна астанецца на становішчы заступніка генаральнага ваеннага пракурора. Гэткім чынам, ня толькі ўсё цывільнае ўпраўленьне, але часткова й суд будзе падлягаць беспасрэднаму службоваму „ўплыву“ прэм'ера марш. Пілсудскага. Дык—маючы датаго—праз прэзыдэнта — значную частку заканадаўчай улады, уступленай яму Соймам, прэм'ер сучаснага польскага ўраду будзе мець у сваіх руках „аб'яднаныя і зьлітыя—усе тры ўлады: заканадаўчую, выканаўчую і судовую. А з курсу дзяржаўнага права ведама, што гэта-ж і ёсьць тое, што калісьць называлася „дэспотызмам“, а цяпер мае больш мілагучны назоў—„дыктатуры“.

### Падзел улады ў габінэце Пілсудскага-Бартля.

Як мы ведаем, сам марш. Пілсудскі, апрача агульнага кіраўніцтва ўрадам, як прэм'ер, узяў сабе цалком пад свой загад вайсковыя справы—як генаральны інспэктар арміі і ваенны міністар; але, апрача таго, ён-жа мае трымаць „сільную руку“ і на ўнутранай палітыцы ўраду і на міністэрстве справядлівасьці — праз службова падпарадкаваных яму вайсковых генаралаў. Як ведама, ён жа зьяўляэцца і фактычным кіраўніком усяго напрамку замежнай палітыкі Польшчы, маючы міністраў Залескага і Кноля толькі, як „тэхнічных дэпляматаў“ — для выкананьня яго інструкцыяў. Гэткім чынам, марш. Пілсудскі будзе трымаць у сваей руцэ ўвесь ваенна-палітычна паліцэйска-судовы апарат дзяржаўнай улады ў Польшчы. А калі да гэтага ўсяго дадаць яшчэ, што ягонаму „бату“ пакорны і Сойм, дык увесь абраз сучаснай „канстытуцыйнай дыктатуры“ ў Польшчы будзе перад намі адмаляваны ўва ўсей сваей мастацкай дасканальнасьці. Недарма-ж ужо самі пілсудчыкі, а навет і ўся ўрадавая прэса, параўноўваюць Пілсудскага з Мусоліні, а сябе—з фашыстамі.

Што датычыць рэшты дзяржаўных спраў — чыста гаспадарчага і сацыяльна-гаспадарчага зьместу, дык усе яны аддаты пад кіраўніцтва віцэ-прэм'ера Бартля. Прычым пад беспасрэднім загадам п. Бартля астануцца, ведама-ж, толькі тэхнічна-гаспадарчыя справы; што-ж да сацыяльных,—як справы работніцкія, сялянскія, зямельныя і г. д., — дык іх клясавы напрамак, пэўна-ж, будуць вырашаць тыя вялікія абшарнікі, што ўзяты за міністраў з нашых „крэсаў“, — цалуючыся пры гэтым салодка па кутох з пэпэсаўцам Морачэўскім.

Вось яркі абраз пануючай цяпер у Польшчы „сацыяльнай раўнавагі“.

### Марш. Пілсудскі ў падвойнай ролі.

Што гэта мае быць за „раўнавага“, аб гэтым сказаў выразна сам марш. Пілсудскі... У варшаўскіх палітычных колах гавораць, што прэм. Пілсудскі, адчыняючы першае паседжаньне новай Рады Міністраў, сказаў паміж іншым гэтак:

„Мае панове! Сацыяльная раўнавага ў дзяржаўным кіраўніцтве забясьпечываецца звычайна гэткім спосабам, што да ўлады даходзяць пачарзе—то правіца, то лявіца. Але я цяпер жадаючы адразу загарантаваць гэтую сацыяльную раўнавагу, я паклікаў у свой урад адначасна — і правіцу і лявіцу... у маім габінэце да правіцы, да кансэрватараў, належаць п. п. Мэйштовіч, Незабітоўскі, **я сам** і, можа,—мін. Ромоцкі; іншыя паны міністры (тут прэм'ер махнуў рукой у бок „лявіцы“ з Морачэвскім на чале) — гэта нашыя супраціўнікі“.

„Супраціўнікі“, але адначасна неяк і—**супрацоўнікі**, пакорныя ўсім загадам „начальства“.

Цікаўна, ці і пасьля гэткай выразнай заявы аб сваей поўнай салідарнасьці з „правымі кансэрватарамі“, (абшарнікамі і манархістамі — Мэйштовічам і Незабітоўскім), — паны пэпэсы будуць усьцяж лічыць марш. Пілсудскага „Правадыром польскіх сацыялістаў“?!

### „Бяс-праўны“ ўрад.

Апазыцыйная правая прэса ядавіта закідае новаму ўраду марш. Пілсудскага, што ў ім няма ніводнага праўніка, калі ня лічыць, зразумела, самога маршалка Пілсудскага, якога паны віленскія прафэсары выбралі—ганаровым „доктарам праў“.

На гэта страшэнна абурылася казённа-бутэрбродная прэса, і, напр. „Кур. Поранны“ заявіў, што вось п. Мэйштовіч—„ня толькі праўнік, але яшчэ і — выдатны“.

Тады некалькі зацікаўленых асобаў зьвярнуліся, як піша „Роботнік“, да Віленскага Зямельнага Банку, дзе п. Мэйштовіч быў дырэктарам, і даведаліся, што гэты „выдатны праўнік“ скончыў... курс „праўных навук“ у Кавалерыйскай Школе ў Петраградзе, дзе „права“, калі і выкладалася, дык хіба толькі—коням.

### Сьледзтва ў справе пабіцьца б. міністра Зьдзеховскага.

Сьледзтва ў справе бандыцкага нападу 10 афіцэраў польскай арміі на б. мін. пасла Зьдзеховскага, як пішуць, ужо скончана. Уся справа перайшла ў рукі ваеннага пракурора. Прэсе ніякіх вестак, ані прозьвішчаў паноў бандытаў не даюць.

Правыя газэты пішуць, быццам выкрыты ўсе гэтыя прозьвішчы, і што „думка“ забіць ня мілага пілсудчыкам пасла ўзьнялася ў пэўнай кумпаніі афіцэраў у часе вясёлай вячэры. Але вось чамусьці паны бандыты пакінулі ў кватэры п. Зьдзеховскага... ручную бомбу, якая прызнана экспэртамі—гранатай з вайсковага арсэналу. Ці паны афіцэры, піша адна газэта, заўсёды вячэраюць з бомбамі ў кішанёх?!

### „Станцыя падслухоўваньня“ пры варшаўскіх тэлефонах.

Эндэцкая прэса сцьвярджае, што на варшаўскіх тэлефонах істнуе „станцыя падслухоўваньня“ размоваў, чым займаюцца спэцыяльныя шпікі... прэса пілсудчыкаў абураецца на... эндэцкую прэсу — за тое, што яна маўчала, калі гэтая станцыя істнавала і працавала пры папярэдніх эндэцкіх урадах, а цяпер — „выкрыла“ яе істнаваньне.

### Атручаньне цэлага батальёну ў Сувалках.

Правыя газэты падалі скандальную гісторыю аб тым, як у польскім войску ў Сувалках атруціўся стравай ці вадой цэлы батальён жаўнераў. Цікаўна, што лекар знайшоў сьпярша „шкарлятыну“—так страшэнна дзеяў падсыпаны жаўняром яд... Яшчэ цікаўней, што ўсю справу вайсковае начальства замаўчала.

## Заграніцай.

### Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

Англійскі ўрад змушаны будзе, як пішуць газэты, абмяжаваць амаль не напалову чыгункавы рух у Англіі, бо не хапае вугальля... А англійскі прэм'ер нядаўна йзноў заявіў у сваей прамове ў парляманьце, што — ня гледзячы на „дурноту, няздарнасьць і грубасьць уласьнікаў шахтаў“, урад — „ня мае спосабаў змусіць іх да кампрамісу з работнікамі, якія даюць усе надзеі на паразуменьне“... Добра сябе атэстуе ўрад, які „ня мае спосабаў“ справіцца з упорнай дурнотай і шкоднай няздарнасьцю тых клясаў, што руйнуюць край... Ці-ж не бярэ гэткі ўрад на сябе ўсе „якасьці“ гэтых паноў-валадароў?!

Канфэрэнцыя дэлегатаў англійскіх вуглякопаў аднагалосна адкінула прапазіцыю англійскага ўраду ў справе паразуменьня з прамыслоўцамі.

Пастанова канфэрэнцыі была прынята на падставе зробленага апросу ўсіх работнікаў па акругох, з якіх толькі 42 тысячы падалі галасы за прапазіцыю ўраду, а проці яе—аж 730 тысячаў.

Забастоўку пастаноўлена вясьці далей і завастрыць барацьбу з прамыслоўцамі.

### Мэты англійскай забастоўкі.

На адкрыцьці 58-ай штогоднай канфэрэнцыі англійскіх прафэсіянальных саюзаў старшыня генаральнае рады П'ю сказаў:

# Грамадзяне! Складайце дэклярацыі на урадовыя беларускія школы.

**Цыркуляр аб веку вучняў у прыватных гімназіях.** Як ведама, беларускіх урадавых гімназіяй пад Польшчай зусім няма́шака,—дык кожнае абмежаваньне правоў прыватных сярэдніх школаў б'ець перадусім па беларускіх гімназіях.

Вось, надовячы віленскае куратарыум разаслала цыркуляр, які абмяжоўвае век вучняў, якіх можна прымаць. Гэтак у першую клясу можна прымаць толькі тых дзяцей, якія на 1 ліпня данага году скончылі ўжо 9½ гадоў і не пераступілі 11. У наступныя клясы век адпаведна павышаецца на адзін год.

Цыркуляр гэты, бясспрэчна, адаб'ецца вельмі блага на нашых гімназіях.

**У студэнтаў-беларусаў.** Беларускі Студэнскі Саюз распачаў рэгістрацыю сяброў, паступіўшых у 1926/27 школьным годзе ў Віленскі Унівэрсытэт.

Сэкрэтарыят Саюзу (Віленская 12, п. 6) адчынены ў аўторкі, чацьвяргі і суботы ад 4 да 6 п.п.

Урад Саюзу просіць студэнтаў беларусаў падаць у Сэкрэтарыят свае адрэсы і зарэгістравацца.

**Фальшаваны юбілей.** Беларускіх клерыкалаў вельмі ўзбурыла тое, што сьвяткаваньне 20-лецьця беларускае прэсы адбылося бяз іх учасьця, дый ад гэтага ня было ніякага знаку на абходзе. Вось-жа, каб неяк замазаць гэтую „нялоўкасьць“, „Bieł. Krynica“, згодна з сваім звычаем, падала сваім чытачом сьвядома манлівую інфармацыю ў гэтай справе, ды надумалася ўладзіць неяк „свой уласны“—чыста клерыкальны юбілей.

Ведама, пры нарадзінах „Нашае Долі“ — органу „Беларускае Сацыялістычнае Грамады“—клерыкалаў і духу ня было, дык на груньце агульна-нацыянальнага сьвята прэсы не адыграешся. Вось і наважыліся сьвяткаваць **дзесяцілецьце „Bieł. Krynicy“.**

Але тут ужо дык выйшла аканчальная кампрамітацыя: бо-ж ад дня выхаду „Krynicy“—8 кастрычніка 1917 году—да 8 кастрычніка 1926 году мінула ня дзесяць, а... **толькі дзевяць гадоў!**

Як бачым, у „велебных айцоў“ крыху ня зусім добра стаіць справа з арытмэтыкай: такой абмылкі ня зробіць у рахунку навет вучань першае клясы!

Дык мо' вярнуліся-бы ў школу крыху давучыцца, паны рэдактары „Bieł. Krynicy“? А то за вас сорамна перад усімі культурнымі людзьмі, дый чытачы вашыя могуць зьбіцца з панталыку, думаючы, што клерыкальная арытмэтыка—нейкая іншая, чым агульналюдзкая!

**„Полёнофілы“ аджываюць.** „Полёнофілы“, выгнаўшы спаміж сябе Павлюкевіча і Якімовіча, пачалі выдаваць — замест памершага „Бел. Слова“—тыднёвік „Беларуская Хата“, у якім цадлізываюцца марш. Пілсудскаму, як „ведамаму прыяцелю“ беларусаў.

Можа рэдактаром „Бел. Хаты“ п. Пілсудскі і кіне які грош. Але беларускі селянін баламутнымі надзеямі на „дабрадзействы“ марш. Пілсудскага напэўна сыт ня будзе!

**Новыя „штэмплёвыя“ аплаты.** Паводле новага закону, дагэтуль „штэмплёвыя“ аплаты абліча́юцца гэтак: ад усялякіх паданьняў — па 3 зл., ад кожнага прылажэньня да іх—50 гр. Прадпрыемцы, якія выкупілі прамысловае ці гандлёвае сьвядэцтва, плоцяць ад рахункаў 0,2 проц., іншыя асобы—1 проц. і ад паўнамоцтваў (plenipotencji)—3 зл. Рахункі да 20 зл. звальняюцца ад аплаты.

Аплата за вэксалі: на суму да 50 злот. — 20 гр., ад 50 да 100 і за кожную далейшую сотню—30 гр.

За квіты да сумы 50 зл. — нічога; вышэй 50 зл.—0,2 проц.

**Саюз віленскіх інвалідаў хоча труціць народ гарэлкай і ў сьвяты!** Саюз інвалідаў у Вільні зьвярнуўся да міністэрства з просьбай, каб дазволілі яму прадаваць гарэлку ў дні тарговыя, сьвяточныя і перадсьвяточныя.

**„Пачэсная кара“—за забойства.** Вайсковы акружны суд разглядаў надовячы справу капітана Заграйскага, які на ст. Новаельня застрэліў шофэра аўтабусу з Дзятлавіч, Аляксандра Здановіча, за тое, што той не пачакаў з пасажырамі на спазьніўшагася капітана.

Заграйскаму прысудзілі—**год крэпасьці.** Дый ён такім мяккім прыгаворам не здаволены: лічучы, што меў поўнае права забіць чалавека, ён падаў апэляцыю....

**Афіцыяльны курс грошы на 12-га кастрычніка.** Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

12. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,04. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 45,50

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

---

## Да ведама настаўнікаў.

Галоўная Управа Таварыства Беларускае Школы зьвярачаецца з просьбай да тых вучыцялёў і вучыцелек, якія скончылі польскія вучыцельскія курсы ў Кракаве, а таксама пры тым ці іншым школьным куратарыуме або інспэктараце, ужо працавалі ў польскай школе, ды таксама скончылі **беларускія** курсы, маюць польскае абыватэльства і жадаюць працаваць у **прыватных беларускіх школах,**—каб **зарэгістраваліся ў Галоўнай Управе** (Вільня, Віленская 12, кв. 6), не адкладаючы.

У анкеце па пунктах трэба адзначыць: 1) імя і прозьвішча, 2) год нараджэньня, 3) якую школу скончыў, 4) якія дзе і калі скончыў курсы, 5) колькі гадоў працаваў у школе наагул і асобна ў польскай школе.

Тыя-ж вучыцялі, якія здавальняюць вышэйпаказаныя вымогі, ды маюць патрэбныя дакумэнты і згодны былі-б прыступіць да працы зараз-жа,—няхай прышлюць разам і свае дакумэнты.

**Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.**

---

## Карэспандэнцыі.

### Далоў несьвядомасьць!

(Алекшыцы, Горадзенскага пав.).

29 жніўня г. г. адбыўся ў в. Алекшыцы сход мясцовага гуртка Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады.—За тры дні да сходу выслалі паведамленьне старосьце, які прыслаў на сход камандант паліцыі і яго заступніка. Пасьля дакладу аднаго з сяброў аб палажэньні беларускага народу пад Польшчай, была прачытана праграма і інструкцыя Грамады ды растлумачаны паасобныя пункты іх.

На сходзе прынялі рэзалюцыю, каб Гурток быў на варце інтэрэсаў сялян і свае вёскі і гміны:—каб сачыў за ўсялякімі незаконнасьцямі розных „кацыкаў“, як войт, паліцыя, духавенства ды іншыя, і ўсе гэтыя незаконнасьці выяўляў і змагаўся з імі законным шляхам.

На сходзе было прысутных 21 асоба — пераважна маладыя хлопцы. — Некаторыя, йдучы на сход і ўбачыўшы каля хаты, дзе адбываўся сход, 2 вэлясыпэды, — варочаліся, кажучы, што ўсё роўна арыштуюць! А жонка аднаго грамадзіста, што быў на сходзе, пайшла ўжо пазычаць хлеба ў торбачку, каб даць у дарогу, як пажануць арыштованага.

Аднак-жа сход скончыўся ў поўным парадку, і ніхто не пацярпеў. У канцы сходу старшыня папрасіў прысутных устаць і прапяяць беларускі гімн: „Ад веку мы спалі“...—Усе ўсталі—усталі і паліцыянты. Дружна і бойка з вялікім энтузіязмам прапялі свой гімн,—тут чулася вялікая надзея і вера ў лепшую будучыну і ў свае сілы гэтых маладых хлапцоў.—І калі ёсьць яшчэ старыя ці бабы, што думаюць, што грамадзістаў усіх паарыштоўваюць, то наша моладзь адказвае на гэта тым, што шчыльнымі радамі йдзе ў Грамаду.

Пасьля сходу 8 хлапцоў тут-жа запісаліся ў Грамаду. Наша моладзь, як кліч, паставіла сабе: „Далоў несьвядомасьць“! **Грамадзіст.**

### У глушы.

(Жараслаўка, Жыдамлянскае гм., Горадзенск. п.).

Жараслаўка — гэта самы глухі куток нашае гміны, у які да гэтага часу толькі калі-не-калі заглядвала зоркае вока паліцыянта. Дагэтуль было ў нас неяк усё ціха і спакойна. Але вось распачаўся вялікі сялянска-работніцкі рух, магутная хваля якога дакацілася і да нас. Дакацілася і пачала рабіць сваё. Зносіць усе перашкоды, гоніць вясковую цемру, кліча да працы за зямлю, і волю, за лепшую будучыну працоўных. Не гледзячы на пастрахі і нагаворы панскіх падлізьнікаў, гэтых кандыдатаў у правакатары і шпікі, ужо пачалася арганізацыя гурткоў Б. С.-Р. Грамады. Побач з гэтым расьце і нацыянальная сьвядомасьць, зацікаўленьне да роднае мовы, газэты і кніжак. Зусім зразумела, што і адносіны паліцыі таксама мяняюцца. Часьцей яна стала наведвацца ў вёску, выпытваючы паціху, ці няма тутака гурткоў?

Паміж іншым ня можна памінуць і гэткі выпадак, які здарыўся у вёсцы Навасёлках. 4-га верасьня завітаў да нас пан камандант пастарунку ў Жыдомлі з адным паліцыянтам—пьяны, як гуз. Пад'ехаўшы пад солтысаву хату, ён загадаў солтысу, каб той выслаў назаўтра, на 10 гадз. раніцы, трох хлапцоў нашае вёскі да пастарунку. Пры гэтым камандант, ні з таго, ні з сяго, загразіў, што калі вёска не паручыцца за іх, дык ён ня пусьціць хлапцоў дамоў і дзесьці адашлець. У канцы дадаў: „ja wiem wszystkie tutejsze narady i zbiory pieniężne“ і з гэтым паехаў.

Назаўтра гэныя хлопцы (ўсе тры прызыўныя 1905 г.), атрымаўшы пасьведчаньне ад вёскі, пацягнуліся за 10 вёрст да пастарунку. Зайшлі. Камандант запытаўся: скуль і чаго прышлі. Пачуўшы адказ, вытарашчыў вочы—відаць, зусім забыўся, чаго хацеў учора. Потым запісаў імя і прозьвішча кожнага (што ён ведаў і да гэтага) і... „możecie iść do domu“. **Поўх.**

### Азьвярэньне.

(В. Лабачоўкі, Лебедзеўскай гм., Маладэчанск. п.).

Сёлета 11 жніўня прыйшоў у нашу вёску да Аляксея Семашкевіча паліцыянт і загадаў парабку Янцы Пяскавому з в. Юхавічы, каб ён прыйшоў на пастарунак. Пяскавы зусім спакойна пайшоў. На пастарунку камандант паліцыі і два сышчыкі спыталі, дзе яго брат—Мікалай; — Янка ня мог сказаць, бо ня ведаў куды дзеўся брат Мікалай. Тады пачалі яго „бадаць“: скавалі рукі кайданамі, залажылі рукі за калені, усунулі паміж локці і калені тапарышча і білі гумовымі нагайкамі па ўсім целе, а ў пяты білі бярозавымі кіямі, па твары і пад бараду білі кулакамі; — каб ня было чутно крыку, дык запхалі рот ганучамі і спакойна сабе „бадалі“, а як траціў прытомнасьць, адлівалі вадой.

Гаспадар увечары пайшоў на пастарунак пытаць, дзе парабак; — там сказалі, што пайшоў да хаты. Аж няпраўда—удома ня было. — Толькі раніцай гаспадар найшоў стогнучага Янку Пяскавога ў гумне на сене, які расказаў, што яго вышэй апісаным спосабам „бадалі“ ад 2 гадз. папалудні да поўначы і тут-жа паказаў свае цела — усё пакрытае чорнымі і чырвонымі сінякамі. Паліцыя яшчэ загадала, каб і назаўтра прыйшоў скатованы на пастарунак, але гаспадар запрог каня і павёз паўжывога парабка не на пастарунак, а да сьледавацеля ў Маладэчна.

Сьледавацель, угледзіўшы паўжывога чорнага ад сінякоў Янку Пяскавога, — адхіснуўся ад перапуду і тут-жа паклікаў павятовага доктара, які, агледзіўшы сінякі і крывяпадцёкі, напісаў пасьведчаньне аб пабоях, а сьледавацель распытаўшы зрабіў адпаведны пратакол і сфатаграфаваў разьдзетага Янку.

Пасьля сьледавацель запісаў, паказаных Янкай Пяскавым паліцыянтаў, што каталі яго і справа пайшла ў суд.

Як-жа цяжка жыць нашаму брату-беларусу! —Пакуль суд, ды справа, а вось, бяз дай прычыны, скатавалі чалавека і хварэе вось каторы тыдзень, а каты на волі! **Сусед.**

### Цяпер пастух, ды будучы лякай.

(З Маладэчанскага пав.).

Вучань Маладэчанскае польскае гімназі Мікалай Квяткоўскі з м. Гарадка добра выкарыствае сваю вакацыю. Сьмяецца з усіх пашоўшых у Грамаду, называючы яе пастухоўскай, кажучы, што ў ёй няма нікога парадачнага.

Хочацца запытацца ў гэтага сапраўднага пастуха:—каго ён хоча бачыць у нашай Грамадзе? Можа якога пана, папа ці ксяндза? Выбачай, пане пастусе, у нас няма месца для такіх асоб. Мы гуртуем такія, як твой бацька і матка і ўся твая радня. А калі ты за час сваей навукі так спанеў, то пэўна-ж ня будзе і табе месца ў нашай Грамадзе. Скажам навет, што цябе чакае. Дастанеш ад паноў павышэньне з пастухоў у лякаі, а пакуль што застаешся ў пастухоўскім чыне, бо вядзеш сябе як пастух і папастухоўску выступаеш проці дарагой нам арганізацыі. **Грамадзянін.**

### Асаблівы „вучыцель“.

(Лужкі, Дзісьненскага пав.).

Аб тым, хто і як вучыць нашых дзетак у польскай школе, хіба што ведама кожнаму чытачу нашай газэты, і на нашага „вучыцеля“ Баліцкага шкада было-б марнаваць месца ў газэце, калі-б ня былі тут пэўныя мамэнты годныя асаблівае ўвагі.

Баліцкі—па прафэсіі каваль і вучыцельскай падгатоўкі ніколі ня меў і ня мае; аднак-жа ў нас ён — вучыцелем! І гэты „вучыцель“ адначасна зьяўляецца галоўным шпіёнам, камандантам, доктарам, войтам, судзьдзёй і г. п.,—усе да яго йдуць з паклонам. Усюды ён — у розных санітарных камісіях па праверцы цэньнікаў у крамах і па вазох на рынку; па яго загаду пішуць пратаколы і штрафуюць крамнікаў і г. д.

А самая галоўная яго функцыя — гэта шпіянаж і правакацыя: кожны новы прыехаўшы ў Лужкі сышчык мусіць мэльдавацца Баліцкаму, як шэфу, які дае яму інструкцыю і ўкладае пляны „работы“. На гэтым сваім „дадатковым становішчы“ наш асаблівы „вучыцель“ разьяжджае ў часе школьных заняткаў па вёсках, „выконваючы службовыя абавязкі“. А дзеці ня вучацца. „Вучыцель-жа“ йшчэ піша пратаколы, што дзеці ня ходзяць да школы, і штрафуе навет старшых, чым школьнага веку. Так Фран. Воўк за 19-летнюю дачку, Станісл. Вершылоўскі за 16-летняга, Якуб Ланацкі за 17-летняга — адсядзелі ў вастрозе за „непасыланьне ў школу“. Гэткая яго „навука“ сцьверджана прадстаўніком з куратарыума, але Баліцкаму ўсё сходзіць гладка!..

Ен-жа першы хабарнік: перавёў школу з в. Верацы ў в. Лучайку за тое, што не далі яму хабара; — абяцаў зьмясьціць школу ў хаце Пад'ельскага, калі той дасьць яму калоду пчол. Ня даў — не зьмясьціў. Усё гэта могуць пацьвердзіць верыгодныя сьведкі.

Хто дае яму акоркі, каўбасы, масла, малако, парасята, дык усё добра; а хто не, дык заезьдзіць. Дзяцей кідае ў карцэр, 8-летніх змушае капаць ямы, дзяцей, бацькі якіх не працуюць з коньмі, выганяе з школы.

Сяляне падалі жалабу,—прыехаў школьны інспэктар на рассьледаваньне. Вось як вёў сябе інспэктар: сказаў Баліцкаму склікаць сход, той — ясна — склікаў сваіх прыхільнікаў, і дзела на дапросе пайшло гладка. Дый хто пасьмее пры ўсемагутным Баліцкім штосьць сказаць на яго? На гэтакую правакатарскую тактыку падалі сяляне жалабу куратару; — прыехаў другі раз інспэктар, зложыў сьледчую камісію з сябе, мясцовага доктара Згірскага і вучыцеля Мажніцкага і дапрашываў сялян у школе, а пад вакном слухаў Баліцкі, каб пасьля расквітацца.

Даказалі ўсе, а камісія ў пратаколе запісвала, што хацела. У пратаколе Яз. Маляўкі запісалі зусім другое, чым ён казаў, дык той не падпісаў, кажучы: „Калі вы больш мяне ведаеце, дык на што ў мяне пытаецеся"? Паказаньняў Ал. Мяцеліцы зусім ня прынялі, кажучы, што ён п'яны, хоць ён і назаўтра напісаў інспэктару, што ніколі не адмовіцца ад сваіх паказаньняў. Паказаньняў Ал. Вяршылоўскага ня прынялі, бо „неграматны—ня мог падпісацца", — а паказаньні яго—самыя забойчыя.

Усе вышэйапісаныя факты пацьвярдзілі 20 асоб, а ў Баліцкага і волас з галавы ня спаў.

Вось і разьбярыся: дзе тут культурная работа, а дзе палітыка,—дзе школьная улада, а дзе дэфэнзыва?!

**Бацька.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× Колькі ні прасілі сяляне в. в. Бакшты і Сарокі, Гарадоцкай гм., Маладэчанскага пав., беларускай школы, а ў 1924 г. і дэклярацыі падалі, усё-ж-ткі ўлада не дала яе. Дала затое польскую школу; але там так „вучылі", што бацькі пакляліся не пасылаць туды сваіх дзяцей, і ўлада была змушана зачыніць гэтую школу. Цяпер ніякай няма, а бацькі далей дамагаюцца белар. школы.

× У Ёдзкай гм. Браслаўскага пав. абяцалі, што дасьць урад на насеньне жыта, бо тут страшэнная няўрода, да й тое, што намалацілі то напалову з гірсаю. Адны чакалі, што дадуць, а другія, ведаючы панскую абяцанку, сеялі хоць гірсаю.—Цяпер адказалі, што не дадуць жыта, і засталіся сяляне не абсеяўшы поле і галадаваць будуць узімку.

× Град зьбіў усю гародзіну ў в. Шэні, Пружанскага пав., а садзіць другое ўжо было позна, дык сяляне пасадзілі тытуню, які прыймаецца ўсё лета. Паліцыя гэта бачыла і сьпярша маўчала;—аж 18. VIII г. г. камандант пал. загадаў, каб увесь тытун вырвалі, ды напісалі з 20 пратаколаў. Цяпер кажуць, што будуць сяляне плаціць па 4 зл. ад 1 квадр. мэтра тытуну!—Абыдзецца гэта кожнаму па 80 злотых!

× 12./IX. г. г. прыехаў пружанскі земскі камісар у в. Малеч разьбіваць вёску на хутары, але народ, пераканаўшыся, што гэта карысна толькі абшарніку Сьвідзе, бо яго зямлю, дзе нішто не расьце, аддалі-б сялянам замест добрай,—патрэбаваў прырэзкі зямлі і надзяленьня малазямельных. Камісар адмовіўся,—тады і народ адмовіўся ад разьбіўкі на хутары.

× Дзеці беднага селяніна Міхала Лазіцкага з в. Лозічы, Лямешаўскай гм., Пінскага павету наняліся пасьвіць жывіну ў сваёй вёсцы. 25. VIII. г. г. пасьвілі яны каля поля абшарніка Бежарэвіцкагага Орды. Чатыры сялянскія валы адлучыліся і падыйшлі да панскай жывіны, што хадзіла тут-жа на скошаным сенакосе. Панскія пастухі адразу—у двор, а аканом Левковіч патрэбаваў 15 зл.; бацька пастушкоў з плачам выпрасіў за 9 зл., што раўняецца трэйцяй частцы заробку пастухоў за ўвесь год.

× Паўпанак Адам Пацына рашыў бяз суду гараць сэрвітут у ўрочышчы Бакавая-Лога, Гарадэцкай гм., Навагрудзкага пав. Сяляне прышлі не даваць свайго, дык паўпанак гэты з сястрою Анцяю агрызаліся з сялянамі; — Анця, скачучы з сякераю каля сялян, абзывала іх славамі, якімі ня кожная публічная дзеўка карыстаецца. А ўсё-ж-ткі сяляне не далі гараць.

× У № 11 „Народ. Спр." была зьмешчана карэспандэнцыя аб сушні ў в. Агароднікі ў Лідчыне. Паліцыянт № 1177 і абшарнік Столя вельмі зьдзіўлены і абураны, што народ сумеў рэагаваць на дзікасьць паноў. А № 1177 вельмі баіцца, каб не пацягнулі яго да адказнасьці, бо навет і войт сказаў, што могуць пакараць гэтага № 1177. Цяпер хочуць даведацца, хто гэта напісаў, але—дудкі, — укусі за свой локаць, тады даведаешся!

22./VIII. г. г. у часе арганізацыйнага сходу „Грамады" ў в. Плешкі і Акунінава, Дзевяткаўскай гм., Слонімскага пав., шпік, што служыць лясьнікам у абшарніка Сьлізьня, а калісь быў у Балаховіча,—убачыўшы праграму „Грамады", вырваў яе ў селяніна з рук — і ў кішэнь; але сяляне дружныя і змусілі яго аддаць праграму, ды прагналі яго з сходу і далей вялі арганізацыйны сход.

× Захарка Заяц з в. Кішоў, Пліскай гм., Дзісьненскага пав., называе сялян, што запісваюцца ў „Грамаду"—„басякамі", „бандытамі" ды пагражае арыштамі. Але народ не зварачае ніякае ўвагі на гэтага панскага прыхвасьня.

## Раз'ясьненьні Галоўнае Управы.

### I. Арганізацыйныя справы.

У справе арганізацыі Гурткоў Т-ва Беларускае Школы, бібліятэк, чытальняў, прыватных беларускіх школаў—абавязкава трэба кіравацца выданай Таварыствам інструкцыяй. Усякія адхіленьні ад гэтай інструкцыі могуць павясьці за сабою непажаданыя вынікі і зацяжку ў працы.

1. Асабліва трэба спаўняць распараджэньні ўлады аб сходах дзеля арганізацыі Гурткоў. У інструкцыі аб парадку склікацьня сходу сяброў выразна сказана ў арт. VI—першы спосаб.

Сходы сяброў дзеля выбару Управы і адчыненьне бібліятэк, чытальняў без паведамленьня ўлады лічацца незаконнымі, і арганізатары могуць быць пацягнуты да адміністрацыйнай або судовай адказнасьці.

2. Шмат з грамадзян, якія прысылаюць заявы аб залічэньні ў сябры Т-ва, пішуць нявыразна свае імёны і прозьвішчы, або пішуць толькі адну першую букву свайго імя. Гэтая неакуратнасьць перашкаджае ў працы Галоўнае Управы, якая просіць пісаць выразна і поўнасьцю імёны і прозьвішчы, а навет, калі трапляюцца адзінакавыя імёны і прозьвішчы, то падаваць і імя бацькі.

Таксама заўсёды пры ўсякай перапісцы трэба падаваць точны адрас і абавязкава паказваць пошту.

3. На заявах аб залічэньні ў сябры некаторыя грамадзяне пішуць, што далучаюць сяброўскую складку 50 грошы, адзін злот ці больш, а грошаў не прысылаюць. Гэта таксама ўносіць блутаніну. Калі хто запраўды прысылае грошы з заявай, то трэба пісаць аб гэтым у заяве; калі-ж грошы не высылаюцца ў Галоўную Управу, а ўносяцца ў мясцовы гурток, то аб гэтым трэба адзначыць у заяве.

> **Увага.** Галоўная Управа даводзіць да ведама, што разьмер сяброўскае складкі 50 грошаў будзе зьменшаны, дзеля чаго справа складак не павінна стаяць на перашкодзе пры ўступленьні ў сябры: можна плаціць, колькі хто можа.

4. Некаторыя сябры прысылаюць сяброўскія складкі ці іншыя паперы ў Таварыства праз рэдакцыю, ці кнігарню, ці іншыя белар. ўстановы.

**Трэба** ўсе сяброўскія складкі ў Таварыства Беларускае Школы, таксама, як і ўсякую іншую перапіску, прысылаць па адрасу: **Wilno, Wileńska 12, Hałoŭnaja Uprawa T-wa Biełaruskaje Szkoły.**

5 Гурткі Таварыства Беларускае Школы пытаюцца Галоўную Управу, колькі адлічаць у Галоўную Управу грошаў з сяброўскіх складак. Пакуль гэтае пытаньне ня будзе вырашана агульным сходам дэлегатаў ад Гурткоў, часова трэба адлічаць у Галоўную Управу трэйцю частку сяброўскіх складак, а рэшту ўжыць на арганізацыю бібліятэкі-чытальні ды іншых патрэб, зьвязаных з арганізацыяй Гуртка Т-ва.

### II. Закладаньне прыватных беларуск. школаў.

Дзеля адкрыцьця прыватнай беларускай школы трэба, каб бацькі праз паўнамоцніка або вучыцеля ў Галоўную Управу прыслалі: 1) пастанову аб тым, што будуць утрымліваць школу, колькі будуць плаціць вучыцелю, ці забясьпечваюць вучыцелю стол і кватэру; 2) сьпіс дзяцей, якія будуць хадзіць у школу; 3) колькі аддзелаў будзе мець школа; 4) у чыёй хаце будзе зьмяшчацца школа і 5) калі мясцовы вучыцель згаджаецца працаваць у школе, то прыслаць яго дакумэнты аб адукацыі, ці аб званьні вучыцеля, аб абыватэльстве, аб пэдагагічнай практыцы ды сканчэньні курсаў беларускіх ці польскіх.

Галоўная Управа ад сябе будзе прасіць школьную ўладу аб выдачы канцэсіі на тую ці іншую школу.

Беспасярэдняя просьба сялян да Школьнага Інспэктара нічога не паможа,—трэба прасіць праз Таварыства Беларускае Школы (глядзі інструкцыю арт. VIII—на 8-ай страніцы).

### III. Складаньне дэклярацыяў.

1. У справе складаньня дэклярацыяў на ўрадовую беларускую школу трэба кіравацца толькі інструкцыяй Т-ва Беларускае Школы, якая высылаецца разам з дэклярацыямі і якая была зьмешчана ў газэце „Народная Справа" № 11.

Усякія адхіленьні ад інструкцыі будуць толькі псаваць справу ды могуць паслужыць прычынаю да ўневажненьня дэклярацыі, як гэта часамі было ў леташнім годзе. Асабліва трэба карыстаць з практычных радаў інструкцыі.

Для заверкі дэклярацыяў трэба, каб бацька ці матка ці апякун самі зьявіліся ў гміну, ня гледзячы на тое граматныя яны ці не і тут та каб расьпісацца на дэклярацыі ці хто расьпісаўся за няграматных.

Дэклярацыяў трэба складаць як можна больш.

2. Калі войты ці магістраты адмаўляюцца сьведчыць подпісы на дэклярацыях або за гэта бяруць плату, то трэба зараз-жа даць знаць у Галоўную Управу: 1) калі і каму войт адмовіў пасьведчыць подпіс; 2) чаму ён адмовіў; 3) якую плату вымагае; 4) імя і прозьвішча войта. Пажадана, каб на агульнай заяве да Галоўнае Управы падпісаліся ўсе тыя бацькі, якім войт адмовіў пасьведчыць подпісы.

Таксама трэба паведамляць Галоўную Управу аб усіх тых перашкодах, якія спатыкаюцца пры спаўненьні бацькаўскіх абавязкаў, з чыйго бы боку яны ня былі: ці то збоку тайнай або яўнай паліцыі, солтысаў, вучыцялёў ці іншых людзей.

3. Галоўная Управа гэтым прыпамінае, што на падставе закону аб школьніцтве ад 31. VII. 1924 г. і распараджэньня Міністра Асьветы ад 7. I. 1925 году, жадаючыя беларускае школы могуць складаць дэклярацыі што-год да 31 сьнежня (декабря).

На падставе гэтага закону і распараджэньня, Школьныя Інспэктары мусяць прымаць дэклярацыі. Калі ж-бы Інспэктар адмовіўся прыняць дэклярацыі, то зараз-жа аб гэтым трэба паведаміць Галоўную Управу, а Інспэктару паслаць завераныя дэклярацыі заказным пісьмом праз пошту.

4. На падставе распараджэньня Міністра Унутраных Спраў ад 12 лютага 1925 году войты і магістраты мусяць завяраць подпісы дэклярацыяў і зусім бясплатна.

Калі Інспэктар ня прыме дэклярацыяў ці войт не пасьведчыць подпісаў, то гэтым яны ня выканаюць абавязываючых распараджэньняў, за што падлягаюць пэўнай кары.

---

× 15. VIII. г. г. у в. Прыкладнікі, Хоенскай гм., Пінскага пав., мітынгаваў пас. Бон з Нез. Пар. Хлоп. На мітынг прыехаў заступнік старосты і паліцыя з двох пастарункаў. Як пачаў пасол гаварыць, што паны падаткаў ня плацяць, а ў селяніна апошнюю падушку ці карову бяруць, то заступнік крыкнуў, каб расходзіліся, але народ ані з месца, і толькі як пасол сказаў расхадзіцца, народ разышоўся. А пасьля сьледзтва:—чаму народ не расходзіўся?!

× Л. Бажко з в. Магунаўшчына, Маладэчанскай гм., прыйшоўшы з войска, часта цяпер ходзіць у вайсковай вопратцы, ды іначай „ня ўмее" гутарыць, як толькі „пакае". Людзі сьмяюцца з гэтага вырадка асталопа.

× Ксёндз Зыгмунт Качынскі—пасол у Сойм—выдае ў Горадні хадэцкую газэту „Nowe Życie", якая займаецца брахнёй і лаянкай з брукавай газэтай „Dzien. Kresowy". Дык ясна: гэтакай газэты ніхто ня чытае. Рэдакцыя і адміністрацыя гэтай газэты, каб ратаваць свой кішэнь, рассылае сваю газэту з „okólnikiem" усім ксяндзом, дзе гаворыцца, каб ксяндзы з амбоны рэклямавалі газэту і пашыралі сярод парафіян. — Усімі спосабамі хочуць абаламуціць беларускіх сялян-каталікоў!

× Вучня Булыгу У. ў в. Мільчы, Даўгінаўскае гм., Вялейскага пав., тутэйшы поп Бікарэвіч лічыць „камуністам". Вось прыйшоўшы ў польскую школу на рэлігію, ні з сяго ні з таго накінуўся на гэтага Булыгу і давай біць па твару, а пасьля паваліў і мясіў нявіннага хлапца. Дзеці перапалохаліся, што заб'е поп вучня і паднялі крык, тады поп апомніўся й тут-жа ўцёк з школы.

× 19./IX. г. г. ў в. Нясутычы, Гарадэчанскай гм., Навагрудзкага пав., прыехаў тамашні войт з сэкрэтаром гміны забіраць за падаткі рэшту жыта, што засталося ад сяўбы. Малочанага ня было, дык не маглі ўзяць; тады сэкрэтар сказаў, што калі да пятніцы не аддадуць, то прышлюць салдатаў. Сяляне адказалі: „І мы былі ў салдатах"!.. Тады толькі гэтыя начальнікі памякчэлі.

× Пятрок Рудак — солтыс з в. Мазьнева, Пліскай гм., Дзісьненскага пав., да паноў ліжацца, а пры зьбіраньні падаткаў, каб прымеў, дык скуру зьдзёр-бы з людзей. Народ церпіць, ведаючы, што „за пары збанок воду носіць".

× 15. IX. г. г. праз в. Мысьлевічы, Маладэчанскай гм., праходзілі—манэўруючы—салдаты (яны мелі № 86 —відаць 86 палку). Капусту і каноплі зусім зьнішчылі ў гародах, а маладую рунь на палёх з зямлёю зьмяшалі. За страты ніхто не заплаціў. Агледзіўшы свае зьнішчанае дабро, сяляне проста плакалі.

× У в. Чэрвелі, Ракаўскай гм., Маладэчанскага пав., прыехаў Ракаўскі войт шукаць памешканьня пад школу і для вучыцеля. Пад школу знайшлі, а для вучыцеля—селянін В. Пастуховіч кажа: „я магу адпусьціць хату, толькі трошкі трэба папраўіць". Тут перарваў яго М. Раманчык, падбрахнуўшы: „Што ты з войта сьмяешся, ён цябе можа ў вастрог адправіць"?! Войт падумаў, што запраўды Пастуховіч з яго сьмяецца, і—рашыў адамсьціць. —Пабег на двор да Пастуховіча шукаць, каб да чаго прычапіцца, але нічога не знайшоў,—убег у хату, знайшоў тры лісьцікі тытуну і... за гэта напісаў пратакол на Пастуховіча.,

× Буяняць шпікі ва вёсках! Яўген Сімох —шпік у Блудэні, Касаўскага пав.,—данёс на Васіля Ясінскага, што мае стрэльбу, — прышлі, зрабілі вобыск, напісалі пратакол і хутка мае быць суд. Сам Сімох п'е, б'ецца, і паліцыя нічога „ня зробіць".

× у **Пінску** 28-га жніўня г. г. работнік Пінскага порту Майдельберг вывесіў абвестку аб тым, што прафсаюз мэталёўцаў склікае сход сваіх сяброў, абвестка была вывешана не ў парту, а на вуліцы. Даведаўшысь аб гэрым, управа порту адразу звольніла яго ад працы, — пэўна, убачыўшы ў гэтым антыпаньствовую працу, а мо' і „вывротовую".

Адказны-Рэдактар: **К. Вайтовіч.**

Друкарня **Я. Левіна**, Вільня, Нямецкая 22.

Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**